ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

1933 г. № 4

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ




# ДЗЕНЬ ЖАНЧЫНЫ

Цяжка жылося працоўным раней, да рэвалюцыі. І асабліва кепскім было жыцьцё жанчыны-работніцы. Жанчыну-работніцу ня лічылі за чалавека.

Так жывуць і зараз жанчыны-работніцы ў буржуазных краінах. Яны ня маюць ніякіх правоў.

І вось, каб лягчэй было змагацца за свае правы, у 1910 годзе быў вызначаны дзень работніц усяго сьвету. Гэта—дзень **8-га сакавіка.**

У нашай краіне жанчына вольная. Яна мае такія-ж правы, як і ўсе працоўныя. Савецкая ўлада многа зрабіла для работніц і працоўных сялянак.

За такое жыцьцё змагаюцца жанчыны ўсяго сьвету. Толькі Савецкая ўлада дасьць ім волю, правы і лепшае жыцьцё.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25

Сотні тысяч дашкалят нашай краіны знаходзяцца у дзіцячых яслях і садох.

Кожная жанчына-маці можа спакойна працаваць і вучыцца







# НЯХАЙ ЖЫВЕ 8-е САКАВІКА

## СЬВЯТА ПРАЦОЎНЫХ ЖАНЧЫН УСЯГО СЬВЕТУ.

# ЖАНЧЫНЫ—РЭВАЛЮЦЫЯНЭРЫ



## Н. К. КРУПСКАЯ

Многа ёсьць жанчын, якія ўсё сваё жыцьцё аддалі змаганьню за рабочую справу. Такой зьяўляецца і Надзея Канстантынаўна Крупская. Шмат папрацавала яна за свой век і зараз актыўна працуе.

Усе свае маладыя гады правяла яна сярод рабочых. Вучыла іх, як трэба змагацца за свае правы, супроць буржуяў і памешчыкаў.

Асабліва клапацілася і клапоціцца Надзея Канстантынаўна аб працоўных жанчынах і дзецях.

Вялікую работу праводзіць яна для разьвіцьця школьнай справы. Яна актыўна дапамагае нам будаваць новую палітэхнічную школу.

Надзея Канстантынаўна напісала многа кніжак аб тым, як трэба вучыцца, як жыў, вучыўся і працаваў Ленін.

# КЛАРА ЦЭТКІН



Клара Цэткін— адна з старэйшых жанчын-рэвалюцыянэрак. Усё сваё доўгае жыцьцё актыўна змагаецца яна з буржуазіяй, за вызваленьне працоўных.

У 1915 годзе яна склікала ў горадзе Бэрне (Швэйцарыя) першую канфэрэнцыю жанчын. На гэтай канфэрэнцыі былі жанчыны з усяго сьвету. Тут вырашалася пытаньне аб удзеле жанчын у рэвалюцыйным руху.

За сваю рэвалюцыйную работу Клара Цэткін ня раз арыштоўвалася буржуазіяй.

З 1919 году Клара Цэткін зьяўляецца членам камуністычнай партыі Германіі.

У ліпені месяцы гэтага году Клары Цэткін споўніцца 76 гадоў. Ня гледзячы на свае пажылыя гады, яна і зараз прымае актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху Германіі.

# ЦЁЦЯ ВЕРА



Верш Т. Кляшторнага
Малюнкі Гусева

Было даўно. Я, цёця Вера,
Маленькай Веркаю была.
... У Веркі маці захварэла:
Хадзіла... чэзла... і—зьлягла.

Наведаць хворую Агату
Ішлі з бяднейшых тольк хат
З сабой прыносячы багата
Ёй зёлак розных і парад.



Пабедаваць ды штось параіць
Былі разумныя усе,
А рэдка хто-нібудзь акраец,
Бывала, хлеба прынясе.

Памрла бедная Агата...
(Жыцьцё ня вернецца назад)
У сьмерці хворасьць вінавата,
А болей—голад вінават.



Ўсю ночку Вера галасіла,
Галоўку хілячы к труне,—
Сваю матуленьку будзіла:
— Устань, матуля, страшна
мне!

Даўгі прыпомніў пан —
ягомасьць,
Прыслаў ганцоў праз дзень-
другі
Забраць сіроцкую маёмасьць,
Прадаць і хатку за даўгі.

Жылі з давольствам і спакоем
Паны ў палацах залатых,
Але-ж ня сорамна было ім
Зьдзіраць кашулю з сіраты.

Усё забралі, распрадалі.
У яе-ж ні блізкіх, ні радні...
Чужыя людзі гадавалі
Сіротку Веру ў тыя дні.

Ніколі скрыўджанай, сумотнай
Ей хто-нібудзь не спагадаў:
Стараўся кожны даць работу,
А хлеба кожны шкадаваў.

Ніхто ня ўчыў яе ніколі,
Сама-сабой яна расла.
Яна ня ведала аб школе,
Ей праца школаю была.

Тады хлапцоў, і то ня кожны
Сяк-так у школу пасылаў,
А ўсе вясковыя дзяўчаты
Расьлі як невукі сяла.

Тады ўвесь век без адпачыну
Бядняк ґнуў сьпіну на паноў,
Тады працоўная жанчына
Жыла бяз шчасьця і правоў.

Ішлі хвіліны і гадзіны,
Ішла чарга цяжкіх гадоў,
Пакуль рабочы з селянінам
рагнаў буржуяў і паноў.





Цяпер пазнаць не можна
Веру —
Яна зрабілася другой,
Хоць з твару крыху пастарэла,
А выглядае маладой.

Яна ад поўначы да ранку
Сядзіць над сэнсам мудрых
кніг.
Яна цяпер не парабчанка,
А наш актыўны будаўнік.

Жанчын на сходы сабірае,
Пра ўсё расказвае яна.
Другім вучыцца памагае,
А, значыць, вучыцца сама.

Яна такім, як вы, зялёным,
Дае напрамак—дальш ісьці...
Такіх вось Вераў міліёны
І за варштатам, і ў жыцьці.



# ІДЗЕ УДАРНАЯ ВЯСНА

**Ідзе вясна. Разам з ёю пачынаецца самая важная работа на полі — сяўба. Час сяўбы вельмі кароткі. Таму, каб добра правесьці сяўбу, трэба загадзя як сьлед падрыхтавацца. У гэтай рабоце павінны прыняць удзел і ўсе школы, атрады, групы акцябрат.**

**Усе павінны змагацца за тое, каб добра правесьці сяўбу, за высокія ўраджаі нашых палёў.**

**Многія школы па-ўдарнаму рыхтуюцца да сяўбы. Вось што пішуць нам аб сваёй рабоце вучні з калгасу „Чырвоная Ніва“.**

Мы ведаем, што найлепш правядуць сяўбу тыя калгасы і гаспадаркі, якія добра падрыхтуюцца да гэтага. Вось наша школа і пастанавіла: схадзіць да старшыні калгасу і даведацца, як калгас рыхтуецца да сяўбы.

Ветліва сустрэў нас старшыня, а як сталі распытвацца ў яго пра падрыхтоўку да сяўбы,—адказаў так:

— Усё добра ў нас. Мы вясны толькі чакаем.

— За гэта трэба вітаць, калі ў вас ўсё добра,—кажа наш важаты. А акцябронак Віцька тут-жа пытае:

## — А ЯК З ПОПЕЛАМ?

З попелам?—перапытаў старшыня.—Як вам сказаць,—ссыпаецца ў кожнага калгасьніка, аб гэтым абвешчана было.

— Ну вось, што-ж гэта за работа? А вы кажаце: гатовы да вясны. Попел трэба сабраць у адно месца. Ня бегаць-жа тады па ўсіх хатах, калі пачнецца сяўба,—параіў важаты.

Попел вельмі добрае ўгнаеньне. І мы будзем змагацца за тое, каб ніводзін кілёграм попелу не прапаў дарма. Цяпер мы зьбіраем попел і зносім яго ў адно месца.

## МЫ ПОМНІМ ПРА ІНВЭНТАР

Зьбіраючы попел, мы яшчэ высьвятлілі адну справу. У сьвірне загадчыка гаспадаркі ляжалі тры хамуты, не папраўленыя. А старшыня нам казаў, што ўсё ў парадку.



Прыходзім мы ўдваіх, я і Мішка Цімохаў, да загадчыка гаспадаркі і кажам яму аб хамутох, а ён махае рукою:

— Глупства, дватры хамуты не гатовы. Затое 38 папраўлены што называецца. З нас і гэтых хопіць.

Мы не згадзіліся з такім разважаньнем і дамагліся, каб кладаўшчык аднёс хамуты на рамонт у майстэрню.

Да сяўбы павінна быць усё падрыхтавана: ня толькі трактары, але і збруя, і вазы, і плугі, і бароны. Тады і сяўба пройдзе добра.

## ШАНУЙ КАНЯ

Мы ведаем (нам расказваў аб гэтым важаты), якую ролю адыгрывае конь у сельскай гаспадарцы. Кулакі і іх падсобнікі ўсякімі спосабамі стараюцца, каб як найбольш зьнішчыць коняй, зрабіць іх няпрыгоднымі для работы. Яны гэтым хочуць пашкодзіць сяўбе і калектывізацыі.

Каб зьвярнуць увагу калгасьнікаў на догляд коняй, мы напісалі лёзунгі і павесілі іх у хаце-чытальні і канцыляры калгасу:

**Рыхтуй каня да сяўбы. Конь — твой прыяцель, твой карміцель.**

На сходзе калгасьнікі прачыталі пастанову ўраду і партыі аб падрыхтоўцы рабочай жывёлы да веснавой сяўбы. Тут-жа вызначылі лепшыя кармы, для коняй, замацавалі за брыгадамі адных і тых-жа коняй на ўвесь час.

Збрую, вазы і другія сельска-гаспадарчыя прылады таксама замацавалі за брыгадамі.

Цяпер кожны калгасьнік адказвае за даручанае, адзін за другім наглядаць будуць.

Нашы вучні ўзялі такі абавязак: **калі хто заўважыць, што будуць біць каня, дрэнна даглядаць яго — заявіць аб гэтым старшыні калгасу.**

## СЕЯЦЬ ЧЫСТЫМ НАСЕНЬНЕМ

Яшчэ ня менш важную справу зрабілі мы: пайшлі да аднаасобнікаў і праверылі, ці ўсе ачысьцілі яны насеньне. Многія ня чысьцілі — яны самі прызналіся, Тады мы схадзілі да члена сельсавету і заявілі яму аб гэтым. Бо нельга-ж сеяць сьмецьця на поле разам са збожжам.



Трэба, каб усе сеялі чыстым насеньнем.

Вось коратка пра тое, як наша школа дапамагае калгасу. Апрача гэтага мы будзем дабівацца, каб

пры школе адкрыць ясьлі на час пасеўнай кампаніі. Тады ўсе нашы маткі і сёстры змогуць хадзіць на работу.

Аб усёй сваёй рабоце мы напішам вам яшчэ. А цяпер цікава ведаць, як дапамагаюць другія школы сваім калгасам у падрыхтоўцы да сяўбы.

АКЦЯБРАТЫ КАЛГАСУ „ЧЫРВОНАЯ НІВА".

Не паганяй каня бізуном, а паганяй аўсом. Абыходзься з канём ласкава



Ачыстка насеньня.



# ЗІМОВЫЯ ЗАБАВЫ

Вершы Л. Кармалітавай

Выпаў беленькі сьняжок,
Мяккай коўдрай сьцелецца.
Бяжэм, дзеткі, у садок,
Сьнег так добра лепіцца.

Ах, як слаўна на дварэ!
Дык хутчэй, рабяткі!
Трэба ўзяць з сабой
насілкі,
Мётлы ды лапаткі.

І ў пакоі пуста стала.
Пад нагамі сьнег
скрыпіць:
Гэта дружна дашкаляты
Сталі ў гурбу сьнег
вазіць.

Рэм і Валік—за лапаткі:
— Мы вам будзем насыпаць!
Падстаўляйце свае тачкі,
Працаваць, дык працаваць!

Мётлы ўзялі Эмма, Рая
І дарожкі разьмятаюць.
Жоржык, Боб, не ўцякайце,
Сьнег зьмятаць нам
памагайце!

Тупат, гоман, сьнег
іскрыцца
Звонкі сьмех дзяцей
зьвініць.
Добра з горачкі вазіцца,
Яшчэ лепш—яе рабіць.



# Лыжы

Апавяданьне Вясёлкі

Які прыгожы сёньня сьняжок. Белы, чысты—быццам вялікая сетка белых матылькоў круціцца—уецца над панадворкам дзіцячага саду.

У такі дзень хочацца бегаць, скакаць па мяккім сьнезе, па прыбраным у бель срэбраную садзе, бегчы далёка-далёка па белых гурбах...

Высыпалі ўсе дзеці старэйшай групы дзіцячага саду. Бегаюць, кідаюцца сьнежкамі, а Лёва і Лёня возяцца на санках.

Юрку і Кастусю вельмі хочацца пакатацца на лыжах, але цёця Валя толькі праз тры дні абяцала дастаць лыжы.

— Вот каб было з чаго, дык мы самі-б зрабілі сабе лыжы,—кажуць хлопцы і круцяцца па двары, шукаючы патрэбнага матар'ялу.

А тут—як на бяду—стаіць старая, вялікая раскіданая бочка. Абручы з яе даўно скінуліся, толькі доўгія і тонкія клёпкі тырчаць угору, прысыпаныя сьнегам.

— Вот якраз лыжы—і рабіць ня трэба!—усьцешыліся нашы сябры.

Хлопцы борзьдзенька схапілі па дзьве клёпкі, тут-жа раздабылі палкі і ўжо сапуць ды рыхтуюць, прывязваючы лыжы да ног.

— Вы на гэтых лыжах паваліцеся і паб'іцеся, — гаворыць асьцярожная Рэма.

— Гэта толькі дзяўчаты валяцца,—адказвае ганарыста Кастусь.

— Шкода, што цёця занята з малымі і ня бачыць вашых лыжаў, мабыць, вы ня езьдзілі-б,—дадае Нінка.

Юрка толькі што прывязаў лыжы да ног, узяў палкі у рукі і крануўся ехаць. Але не пасьпеў ён ступіць і кроку, як „лыжа" матнулася ўверх і з усяго размаху ўдарыла Юрку ў лобік, чуць вышэй вока.

Ад нечаканасьці і болю Юрку пацямнела ў вачох. Ён кінуў палкі і стаяў, апусьціўшы рукі. Вока запухла зусім і ён нічога ня бачыў.

— Ой, хадзем хутчэй да цёці Валі!—крыкнула Ніна і пацягнула Юрку за руку.

Кастусь таксама даўно ўжо кінуў лыжы і ціха ішоў ззаду.

Цёця Валя была ўжо ў сенцах і памагала распранацца малым.

— Што з табой, Юрачка? — спытала яна, бачачы яго апухлы тварык.

— Гэта... мы зрабілі самадзельныя лыжы... Гэта пройдзе...—гаварыў занепакоены Кастусь.

— Юрка ўдарыўся клёпкай ад бочкі, з якой ён зрабіў сабе лыжы. Я яму гаварыла... —пачала Нінка.

— Цёця Валя! Адкрыйце і паглядзеце — ці ёсьць у мяне там вока!—загаварыў урэшце Юрка.



— Будзь спакойны, вочка тваё цэлае, але толькі запухла і таму ты ім нічога ня бачыш, — гаварыла цёця Валя, прыкладваючы Юрку кампрэс з халоднай вады.

Праз гадзіну дзеці ішлі дахаты. Юрка крыху павесялеў, бо ад халоднага кампрэсу вочка „стала ўжо бачыць“.

— Лепш-бы мы пачакалі куплёных лыжаў, — гаварыў ён Кастусю. — Цяпер мама будзе на мяне крычаць. Вока ўжо трошкі глядзіць, але каб яно зусім глядзела, як трэба...

Праз тры дні вока ў Юркі паправілася. А к гэтаму часу цёця Валя купіла новыя лыжы для ўсіх дзяцей старэйшай групы.

# ВОЖЫК

[illegible]

— Га-ля-я! — пачулася з вуліцы, пасьля бразнула клямка і на двор віхрам прыляцела Арынка з вялікім клумкам. За канцы зьвязанай хусткі яна асьцярожна трымала гэты клумак так, каб не датыкаўся да ног...

Я кінулася да Арынкі і схапіла клумак абедзьвюма рукамі. Ды раптам як закрычу, а пальцы скарэй у рот. Арынка аж пакацілася ад рогату. У мяне ўжо да плачу даходзіць, а яна ад сьмеху сьлёзы выцірае.

— А што, схапіла? Паглядзела? Ха-ха-ха! Ай, Галя, Галя!

— Чаго ты зайходзішся—агрызнулася я.— Напхала ў анучку голак, ды й цешышся?..

Арынка яшчэ больш зайходзіцца ад сьмеху, а сама асьцярожна разьвязвае канцы анучкі.

— Вось глядзі, якія тут голкі.

А я ўжо і пра пальцы паколатыя забылася: на анучцы ляжаў вялікі вожык, скручаны ў клубок, а каля яго яшчэ некалькі маленькіх вожыкаў. На іх былі таксама голкі, толькі сьвятлейшага колеру.

—Бачыш?—перастала сьмяцца Арынка.— Гэта-ж у калгасе пацяруху з-пад сьцірты



зграбалі і тата знайшоў яе там з малымі... малых пацёра... Тата сказаў, каб ім знайшлі месца, а потым, як малыя падрастуць, аднаго возьмем сабе ў хату. Будзе мышэй лавіць.

— Як мышэй? А гэта-ж, кажуць, ён яблыкі ды грушы есьць? Узьлезе на дрэва, наабрывае, паскладае ў радок, а потым пакачаецца па іх, яны і пачапляюцца на голкі... А тады нясе яблыкі і грушы ў сваё гняздо.

— Ой, не пляці, Галя. Унь Астапаў Петрык, што на агранома вучыцца, казаў, што вожык найлепшы прыяцель у гаспадарцы. Ён мышэй ловіць. А колькі ён усякіх шкодных казявак, жукоў, чарвякоў зьнішчае, дык і не пералічыць... А яшчэ ведаеш што? Ён гадзюкаў ловіць.

У мяне аж дух заняло.

— Ой, гадзюкаў! А яны што?..

— Ну, Петрык кажа, што кусаюцца, але вожык гэтага не баіцца: яму ня шкодзіць.

Тым часам старая вожычыха трохі асвойчылася і стала паволі варушыцца. Мы ўспомнілі, што трэба ёй шукаць месца.

Месца знайшлося пад дошкамі каля дрывотні. Мы занесьлі туды ўсю сям'ю і паклалі ў няглыбокую ямку, разаслаўшы ў ёй сена і сухога лісту. Цэлы дзень мы раз-по-разу заглядвалі пад дошкі: вожычыха ляжала ніцма, апусьціўшы на вочы чуб з голак, а маленькія прытуліліся да яе.

На другі дзень толькі разьвіднілася, а мы пабеглі ўжо даведацца вожыкаў. Глядзім, а ў гнязьдзе ляжыць толькі адзін маленькі вожычак, а старой і чатырох малых няма. Гэта яна іх за ноч вывела ўсіх, а адно чамусьці засталося.



Забралі мы яго ў хату, зрабілі яму гняздо і паставілі пад прыпечак. А самі ўсё заглядвалі, што ён робіць. А вожык сьпіць сабе ды нязнайся. Некалькі раз на

дзень прачынаецца і пачынае пацягвацца, пазяхаць, а пасьля нюхаць навакол сябе. Тады мы бяромся яго карміць: наловім яму мух, тараканоў, жукоў, дадзім малака, сыра. Вожычак наесца ды зноў спіць.

Прынесла Арынка вожыка тады як сена касілі: у першай палове ліпеня. Быў ён невялікі: у мяне на далоні зьмяшчаўся. А голкі на ім былі зусім маленькія. Пачаў вожык падрастаць і ў жніво быў ужо такі, што яму і на татавай далоні стала цесна. Спаў вожык цэлы дзень, а як толькі сонца зайдзе, дык ён вылазіць з свае скрыначкі і ўсю ноч бегае па хаце, чмыхае, шукае лапкамі і ловіць ловіць... Ніводнае шчылінкі не прапусьціць, усюды загляне і дзе які таракан, жучок—усё зловіць.

Аднаго разу вечарам жаба ўлезла ў хату,



і не пасьпелі мы крыкнуць, як вожык ужо злавіў яе і зьеў. А мышэй лавіў, дык ні адзін кот таго не дакажа. Нас ён не баяўся. Мы яго бралі на рукі, гладзілі. Ня любіў толькі, каб яго па жываце казыталі: адразу-ж пачынае фыркаць і зьвіваецца клубком.

На зіму заснуў наш вожык саўсім. Спыталіся мы ў настаўніцы, а яна і кажа, што гэтак і трэба. Расказала яна нам, што на волі вожык робіць сабе гняздо дзе-небудзь у старой саломе, або пад дрывамі, пад кучамі бярвеньняў. Назіму вожык залазіць у гняздо, затыкае нару і сьпіць аж да вясны.

Наш вожык таксама спаў аж да вясны, а ўвесну прачнуўся і зноў стаў бегаць уночы. Зьнік ён неспадзявана. Неяк сярод лета забыліся ўвечары дзьверы ў хаце прычыніць, а ён і вышаў на двор. Вышаў ды больш і не вярнуўся.






# Злодзей

Апавяданьне С. Баранавых
Малюнкі В. Волкава

Другі тыдзень я жыву ў майго дзядзькі Тадэвуша. Ён такі высокі, у яго на скронях, паабапал, растуць бакі. Яны густыя, калматыя, сівыя. Я вельмі ня люблю глядзець на яго бакі. Сам дзядзька Тадэвуш — хударлявы ўвесь, і заўсёды ўсё на некага злуе. Я нават баюся яго, калі ён на мяне пазірае. Але я жыву ў яго. Мне няма дзе пражываць.

У мяне быў добры бацька, гэта кажа мая маці. Я не памятаю, які ён быў. Маці мая часьцяком плакала— шкадавала бацьку, гаварыла:

— Памёр твой бацька, мой сынок, і ня бачыў ты яго...

Мне тады было вельмі шкада, што я ня бачыў. І я плакаў разам з маткаю. Маці гаварыла:

— Яшчэ-б і доўга жыў твой бацька, каб ня белыя палякі. Яны, як былі—аднялі палавіну здароўя: білі яго. Яны казалі, што нібыта бацька мой хаваў камуніста, дзядзьку Атрахіма. (Я ведаю дзядзьку Атрахіма: ён нейдзе у горадзе жыве. Летась ён быў у нас і мне прывозіў цукеркі ў жоўтых паперках. От-жа смачныя цукеркі былі!).

Дык мой бацька пасьля таго доўга чэўраў, казала маці,—і памёр от. А маці мая ў шпіталі цяпер, лечыцца ад кашлю. Яна ўсё памаленьку кашляе. Кашаль ціхі, але аж кроў дастае ў яе з сярэдзіны. Як ехала яна ў лекі—мяне і завезла да Тадэвуша. І яшчэ мукі завезла Тадэвушу.

Калі мы прыехалі да Тадэвуша і ён муку забіраў з воза, маці гаварыла:

— Хай хоць у хлебе жадзён ня будзе. Есьць няхай. (Гэта на мяне).

* * *

Учора гэта было, якраз пад вечар. Я вельмі, аж нават, захацеў есьці. А хлеб у дзядзькі Тадэвуша ляжыць у шафе. У хаце нікога ня было, каб мне хто есьці даў. Я шафу адчыніў, адламаў з-пад ісподняй скарынкі ладны такі кавалак хлеба ды і зьеў у сухамятку. А калі сабраліся на вячэру,—дзядзька і кажа ўслых перад усімі:

(Я вячэраю на палку, каля печы, а дзядзька Тадэвуш цётк і Хвядос—сын дзядзькаў—за сталом).

— Ты хлеб крадзеш. Злодзей ты,—кажа дзядзька.— Няможна гэтак рабіць, хлапец. Кароткія ў цябе рукі: не пасьпелі яны на хлеб зарабіць.

Пазірае на мяне сваімі вострымі вачмі,—бакі яго ажно расуцца ад злосьці,—ды зноў гаворыць:

— Калі будзеш красьці хлеб—ня дам нічога есьці:— еж адзін хлеб, малакасос.

Мне вельмі ў сярэдзіне запякло нешта. Сьлёзы хацелі

ісьці з маіх вачэй. Я праглынуў, мусіць, мае сьлёзы і мне же хацелася есьці вячэру з аржаной заціркі.

Цётка было сказала да дзядзькі Тадэвуша:

— Ну, дык што там—калі ён і адламаў кавалак хлеба? Не сварыся ты на дзіця.

А Тадэвуш, дзядзька, кінуў кроіць хлеб ды:

— Маўчы! Ня твой інтэрас. Я не дазволю. Ня трэба даваць патолю усялякай казяўцы, вот!

Я ў гэту ноч не распранаўся: так і заснуў на палку. Мне хацелася пабачыць маю матку, каб расказаць ёй, што я ня злодзей. Я пайшоў-бы да яе, каб ведаў куды ісьці. Але я ня ведаў дарогі да шпіталю і ад гэтага плакаў, сам сабе, ціханька.

*
* *

Прайшоў адзін тыдзень і яшчэ адзін тыдзень, і яшчэ адзін дзень. Усе дні гэтыя ня было дажджу. Я праз усе дні пасу на прыгуменьні дзядзькавы гусі. Шмат гусей у дзядзькі Тадэвуша і ўсе яны вельмі-ж нягодныя. Абы чуць адхінуўся—яны і пагогалі адна за другою на поплаў.



А тамака сенажаць — атава дзядзькава. Дык яны-ж вельмі любяць выбіраць лісткі кругленькія з гэтай атавы. (Ого, калі-б заглядзеў дзядзька Тадэвуш, што яны ўрваліся ў сенажаць!).

— Каб вас нараду ня было, — кажу я, — як вы мне надакучылі. Сядзі пры іх цэлы дзень і пасі іх і пасі.

Дзядзька Тадэвуш з Хвядосам на калгаснай рабоце кожны дзень. А цётка дома—то сёе, то тое—поркаецца. Калі дзядзька Тадэвуш прыходзіць з калгасу, бывае злосны на некага. І мне гэта вельмі цікава, на каго злуецца дзядзька Тадэвуш. А ўчора я даведаўся на каго. І вось як:

Дзядзька дружыць з тым Карпейчыкам, што не ў калгасе жыве, а сам сабе. Карпейчык часьцяком ходзіць да дзядзькі і яны праневашта доўга гавораць. І ўчора я чуў: яны найбольш гаварылі пра калгас.

— Ты пытаеш, чаму я пайшоў у калгас? — кажа дзядзька да Карпейчыка.—Каб не раскулачылі, вось чаму. Такі-то хутар здаў у калгас... Але я ім напрацую ў калгасе...

І я цяпер ведаю, што дзядзька Тадэвуш злуецца на калгас. Ад гэтага і злосны ён прыходзіць дадому. Можа ад гэтай злосьці мяне і злодзеем абазваў.

Хоць прайшлі два тыдні і некалькі дзён, а я не забыўся і не забудуся аб маёй крыўдзе.

* * *

Сёньня ноч. У хаце ціха і цёмна. А мне ня сьпіцца: неяк я выбіўся з сну. Я чую як сьпіць цётка, і чую, што ня сьпіцца нешта і дзядзьку. А потым я чую: дзядзька Тадэвуш устае з ложка і шэптам будзіць Хвядоса:

— Устань... Чуеш, нябож, устань. Пойдзем...

Я ня ведаю, куды яны хочуць ісьці і мяне бярэ вялікая цікавасьць. Я сьцішыў маё дыханьне, дык яно ад ціхаты яшчэ мацнейшым зрабілася. Я злую на сябе, чаму я не магу стрымаць, каб не сапці моцна. (Хаця каб не здагадаўся дзядзька, што слухаю яго гаворку?). А ён зноў будзіць і кажа:

— Пойдзем. Апранайся і бяры мяхі...

— Куды-ж яны з мяхамі?—карціць у маёй галаве.

Яны абуваюцца і ціханька ідуць за дзьверы. Я аж дрыжу ўвесь ад страху. Мне хочацца ведаць, куды яны пайшлі ўначы з мяшкамі. І маё хаценьне большае за мой страх.

Я ўздымаюся з палка і бяру пад паху маю капоту, што маці пашыла мне сама, на кудзелі. Прыслухоўваюся і чую як сьпіць цётка — сапе моцна на ўсю хату. Я выходжу на двор і ня бразгаю дзьвярыма. Ноч уся пала расою. Зоры мігаюць на небе, як тыя вугольчыкі. Ціха,



ціха сярод ночы і я чую крокі ад дзядзькавага хутара проста на поле.

— Куды-ж яны пайшлі? — карціць думка ў маёй галаве. Што яны тамака будуць рабіць? Тамака-ж нічога няма апрача калгасных мэндлікаў?

А побач з дзядзькавым хутарам жыве Сулімчык. Ён у калгасе лічыцца самым галоўным чалавекам. Усёю работаю ён загадвае ў калгасе. Яго хваліць вельмі дзядзька Рыгор. Кажа Рыгор, што Сулімчык разьвітны ва ўсякай справе.

Уньдзека Сулімчыкава хата відаць чорнаю плямаю...

— А каб пайсьці цяпер да Сулімчыка і сказаць, што пайшоў некуды дзядзька Тадэвуш з Хвядосам? Гэта-ж зладзеі толькі поначы ходзяць. Гэтак гаварыла мне мая маці. Дык можа і дзядзька Тадэвуш злодзей?

Але другая думка тышчыцца: Бобік у дзядзькі Сулімчыка. Ён вельмі-ж злосны і можа унь нават як на мяне набрахаць.

— Не пайду,—вырашаю я.—Хай ідуць сабе ў чыстае поле. А я заўтра сам дзядзьку Тадэвушу скажу, што ён от злодзей, а ня я.

І я іду ў хату, кладуся зноў на свой палок. Я не магу доўга заснуць. Думаю ўсё пра сваю матку:

— Дзе яна цяперака? Ці сьціх у яе кашаль?

*
* *

Раніцаю я не сказаў Тадэвушу, што ён злодзей. Ён-бы мяне моцна набіў. Я ня чуў, калі прышлі дзядзька з Хвядосам. Але мне раніцаю сказаў Сулімчыкаў Стась:

— Бацька пайшоў шукаць жыта, — казаў Стась мне на прыгуменьні, калі я гусей пасьвіў. — А я цяпер дома адзін. Маці пайшла з Фаняю ў калгас...

— Якога жыта?—запытаўся я ў Стася.

— Ноччу сёньня нехта унь колькі наабціраў жыта... Каб ты бачыў колькі саломы!

Мне вельмі хацелася паглядзець на тое месца і я забыўся пра гусі.

— Сходзім,—ты мне пакажаш,—сказаў я Стасю.

І мы пайшлі.

Ой, колькі там было натрыбушана снапоў! А жыта на зямлі як усыпана—гэтак шмат нацёрта... Ай-яй-яй!

— Калі знойдуць злодзея—з калгасу выкінуць і судзіць будуць,—кажа Стась. — Бацька гэтак казаў мой. Бацька казаў, што гэта ня пройдзецца надарма.

— А я ведаю... — пачаў гаварыць я Стасю. І не пасьпеў гэтак сказаць, як чую:

— ... гусі!.. Дзе ты дзеўся? Дзе гусі!..

Гэта дзядзька Тадэвуш крычаў на мяне. Гусі былі ўсе на поплаве, на атаве. Я рынуўся бегчы, каб сагнаць іх. І ўжо быў каля гусей, зганяць пачаў, аж бачу: ідзе



да мяне сярдзіты, сярдзіты дзядзька Тадэвуш. У мяне аж скура пашэркла, а ён:

— Я цябе—шэльма ты — напасу! Я табе набегаю, аж горка будзе табе! Давай сюды вушы, злодзей ты, рыштанюга!

— Я ня злодзей,—ня сьцерпеў я,—ты сам злодзей,— крыкнуў я на ўвесь голас.

—Ты жыта пакраў у калгасе, вось што. Я, думаеш, ня ведаю...

— Ты... ты...—ня мог гаварыць ён пасьля гэтых слоў. Заб'ю! Заб'ю на месцы!

Ён з пакамечанымі кулакамі рынуўся да мяне. Я ня мог чакаць, пакуль будзе біць ён мяне. Я пабег з усяе сілы да дзядзькі Сулімчыка.

На дварэ стаяла цётка Сулімчыкава і я не баяўся Бобіка. Цётка Сулімчыкава—Ганна—магла абараніць мяне ад Бобіка.

— Завошта ён хоча цябе набіць? — запыталася цётка Ганна.

— За жыта...—адказаў я.

— Ён злодзей, от што.

І я расказаў цётцы Ганне папарадку, што гэта ня я злодзей, а ён—злосны гэты дзядзька Тадэвуш.

... Цяперака я жыву ў добрай цёткі Ганны.

А дзядзьку Тадэвуша, як злодзея і шкодніка, у той-жа дзень выключылі з калгасу і аддалі пад суд.

# ПАДУМАЙ

## ЗАГАДКІ

1. Ня птушка, а лятае, не гармата, а знарадамі страляе. Не пчала і ня чмель, а гудзіць, не варушыць крылом, а ляціць.
2. Бяз рук, без тапара на дзераве хата зроблена.
3. Ніхто ні такоў, як Іван Петракоў — сеў на конь і паехаў у вагонь.

# ЖАРТЫ

## НЕ ЗГАДЖАЕЦЦА

Сумны сядзіць Янка на скамейцы ў сваёй клясе. Падышоў да Янкі Міколка з другой групы.

— Чаго ты засмуціўся так?

— Настаўнік „нездавальняюча“ паставіў. Я ня слухаў яго лекцыі, а калі ён запытаў мяне, колькі трэба заплаціць за дзьве кніжкі, калі адна каштуе 37 кап., я ня ведаў.

— Дзіўны ты, ідзі скажы 74 капейкі.

— О не, не паможа нічога. Я ўжо даваў 80 капеек, а ён усёроўна не згаджаецца, „нездавальняюча“ паставіў

## БОЛЬШАЯ ЖМЕНЯ

— Мама! Я прашу арэхаў.

— Дык вазьмі сабе, дачушка, поўную жменю.

— Аж поўную жменю?! Дык вы, мамачка, дайце самі. Ваша жменя большая.

# ЗМАГАЕМСЯ ЗА ЧЫСТЫ СШЫТАК

Мы, вучні другой клясы першай ФЗС (г. Менск), уключыліся ў конкурс на лепшы сшытак. Перад пачаткам конкурсу мы склікалі сход вучняў і абмеркавалі гэта пытаньне. На сходзе ўсе вучні далі абяцаньне трымаць сшыткі чыстымі, пісаць без памылак, акуратна выконваць свае заданьні.



ЛЕПА НАСТА—лепшая ўдарніца Дзямідавіцк. школы (Крупскі р.).

Зараз у нашай клясе амаль што ва ўсіх вучняў сшыткі добрыя, чыстыя.

Найлепшымі ўдарнікамі ў гэтым конкурсе зьяўляюцца: Номаль Ірма, Камлюк Ада, Нісенбаўм Люся

Акрамя лепшых вучняў, ёсьць у нас тры вучні, у якіх сшыткі брудныя, гэта—Эськін Макс, Капілевіч Лазар і Салавей Коля.

ЛІДА ЛЬВОВІЧ
і ХІЛЯ КРЫМЕР




ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 717. 5680 экз. Менгарліт № 1440

